# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 2 (6) | 1 Люты 1929 г. | № 2 (6)


**З Ь М Е С Т**



# Прэзыдыум ЦВК БССР аб ходзе справаздачна—перавыбарчай кампаніі.

Прэзыдыум ЦВК 2 лютага г.-г. заслухаў даклад тав. Хацкевіча—Старшыні Цэнтральнай Выбарчай Камісіі аб ходзе ў Беларусі перавыбараў саветаў. Лічбы і весткі, якія прывёў т. Хацкевіч, сьведчаць аб тым, што сучасная перавыбарчая кампанія, у параўнаньні яе з кампаніяй 1927 году, праходзіць больш арганізавана, больш актыўна і набывае сапраўды масавы характар. Месцы досыць уважліва выконваюць дырэктывы Прэзыдыуму ЦВК аб падрыхтоўцы і правядзеньні кампаніі.

Галоўнай дырэктывай была дырэктыва аб магчыма больш шырокім уцягненьні працоўных мас у перавыбарчую кампанію. І калі ў мінулай кампаніі актыўнасьць працоўных складала 46,3 проц., то зараз яна складае 58,3 проц. Павялічэньне актыўнасьці тлумачыцца: выхаваўчай працай партыйных і савецкіх органаў, абавязковым і своечасовым уручэньнем кожнаму выбаршчыку позвы, разбуйненьнем выбарчых вучасткаў. Апошняе мерапрыемства адыграла вельмі значную ролю ў павялічэньні актыўнасьці. Колькасьць выбарчых вучасткаў у пасобных раёнах была павялічана на 50,100 і нават 200 %. Дзякуючы гэтаму скарацілася адлегласьць участкаў ад выбаршчыкаў, утварылася магчымасьць зьмясьціцца выбаршчыкам у вясковай хаце, дзе адбываўся справаздачны або выбарчы сход. Арганізацыя выбарчых камісій была праведзена правільна і толькі, як выключэньня, былі выпадкі слабага ўвядзеньня у камісіі беднаты і батрацтва. Камісіі і саветы больш шчыльна правяралі ў гэтым годзе сьпісы выбаршчыкаў, у выніку чаго процант асоб, пазбаўленых выбарчага права, павялічыўся. Выпадкі няправільнага пазбаўленьня выбарчага права значна зьменшыліся. Асоб, якія скарыстоўваюць свае правы на шкоду інтарэсам працоўных і таму па хадайнічаньню месц пазбаўлены выбарчага права, пастановамі Прэзыдыуму ЦВК у гэту кампанію маецца 30.

Работа з беднатой і работа па ўзмацненьні блёку беднякоў з сераднякамі была разгорнута досыць шырока. На сходах беднаты абгаварваліся пытаньні па падрыхтоўцы наказаў, кандыдатур, арганізацыі перавыбараў і г. д. Там, дзе работа з беднатою была неарганізавана або арганізавана дрэнна, назіраліся выпадкі размычкі серадняка з бедняком, калі серадняк галасаваў супроць кандыдатур беднаты. Заўважана, што значная частка беднаты яшчэ знаходзіцца пад ўплывам кулакоў, ад якіх яна часта матар'яльна залежыць, і дзякуючы чаму яна слаба выступае супроць кулацтва. Але наступ на кулака нагогул зьяўляецца моцным і кулак на гэта пачаў адказваць помстай бедняку і серадняку. Вось некаторыя лічбы кулацкага тэрору, на які кулак адважыўся: замах на забойства—24 выпадка, падпал камун, саўгасаў, калэктываў, сялянскіх гаспадарак—37, анцісэміцкіх выступленьняў—12, іншых варожых і злачынных выступленьняў—6, а ўсяго 79 выпадкаў актыўнага кулацкага выступленьня. Гэтыя выпадкі сустрэлі моцны і рашучы адпор як з боку беднаты і сераднякоў, гэтак і з боку судовых органаў і пракуратуры.

Справаздачная кампанія сельскіх саветаў адзначана амаль пагалоўнай справаздачнасьцю паасобных членаў саветаў. Насельніцтва актыўна абгаварвала і крытыкавала работу саветаў. Назіраліся шмат выпадкаў, калі справаздачныя сходы прызнавалі работу сельсаветаў нездавальняючай і канкрэтна наказвалі на прычыны дрэннай работы. Дзякуючы гэтаму і наказы даваліся больш канкрэтныя. Вопыт складаньня наказаў у раёнах на падставе дырэктыў акруг зусім сябе апраўдаў. У большасьці наказы прыстасаваны да умоў адпаведнага савету, выходзячы з патрэбнасьцяй жыцьця і сродкаў для іх задаваленьня.

Асобна трэба адзначыць актыўнасьць жанчын як у справе наведваньня сходаў, гэтак і выступленьняў на іх. Гэтай актыўнасьці значна дапамагала арганізацыя ў некаторых месцох паасобных жаночых сходаў (Віцебская акруга). Там, дзе такія сходы былі праведзены, актыўнасьць наведваньня іх жанчынамі павялічылася да 90—95% у той час, як на сходах мужчын

якасьці старшынь, намесьнікаў іх і сэкратароў Саветаў.

Характэрна і тое, што ў гэтую кампанію менш назіралася прыкладаў, калі жанчыну трэба было цягнуць на справаздачныя сходы; у час выбараў гэтага году жанчыны не аддавалі сваіх абвестак мужу альбо другому сябру сям'і—мужчыне і не даручалі выбіраць за сябе ў Саветы тых кандыдатаў, якія падабаюцца мужчыне. Цяпер працоўная жанчына сама актыўна ўдзельнічала на выбарах, упарта адстайвала тыя жаночыя кандыдатуры, якія абгаварываліся і намячаліся на бедняцкіх і жаночых сходах.

Праўда, нельга сказаць, што па ўсіх акругах і раёнах справа ўдзелу жанчын у перавыбарах праходзіла так добра; ёсьць раёны і сельсаветы дзе актыўнасьць жанчын была ўсё яшчэ невялікая: процант яўкі на справаздачныя сходы быў ня больш 6—7 (Рэчыца, Уваравічы Гомельскай акругі, Лупалаўскі раён Магілёўскае акругі).

Дасягнутыя посьпехі ў справе ўцягненьня жанчын у перавыбары трэба замацаваць і пашырыць. З гэтаю мэтаю неабходна зьвярнуць найбольш увагі на справу выхаваньня вылучаных жанчын на адказную, кіруючую работу ў савецкія органы. Найбольш поўна скарыстаць жаночы актыў, асабліва той, які мае некаторую тэарэтычную падрыхтоўку ў савецка-грамадзкай працы (напрыклад жанчыны, праслухаўшыя курсы пры ЦВК), для запаўненьня тых пасад, якія вызначаны для зьмяшчэньня жанчынамі-вылучэнкамі.

Побач з гэтым належыць вылучаных жанчын паставіць у такія ўмовы працы, якія-б дапамагалі вылучэнкам справіцца з даручанай ім работай, патрэбна практычная дапамога ў іх штодзеннай, але новай, рабоце.

**З. Зінькевіч.**

# НАШ КОНКУРС.

## Як рыхтаваліся да правядзеньня конкурсу ў Бабруйскай, Гомельскай і Мазырскай акругах.

Конкурс праводзіць трэба. Праз конкурс магчыма палепшыць масавую работу саветаў з гэтым згодны ўсё. А вось, калі пачалі праводзіць гэтае важнае мерапрыемства, то і пашлі розныя тлумачэньні. Нажаль, усе яны прыходзяць да аднаго памылковага вываду—«гэтую кампанію трэба правясьці асобна, ня зьвязваючы яе ні з якой іншай кампаніяй». Павярхоўнасьць, непрадуманасьць і неабгрунтаванасьць гэтага вываду відавочна. Таварышы, якія так падыходзяць да абгляду масавай работы саветаў, не ўявілі сабе наступнага: правядзеньне конкурсу ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ніякай работы не дабаўляе. Наадварот, гэтае мерапрыемства дапамагае высьвятліць якасьць масавасьці ў рабоце саветаў і мэтады гэтай масавасьці. Больш паўней магчыма ўсё гэта праверыць у час ажыцьцяўленьня важнейшага палітычнага мерапрыемства дзяржавы—перавыбараў саветаў. Работа саветаў і асабліва, іх масавая работа ніколі так ня абмяркоўваецца працоўнымі, як у час справаздачнай кампаніі перад перавыбарамі. Пры дачы дырэктыў аб правязаньні конкурсу адзначаны момант у першую чаргу і быў прыняты пад увагу. У дырэктывах гаворыцца, што правядзеньне конкурсу на лепшую сэкцыю гарадзкога савету і лепшы сельскі і мястэчковы савет з іх камісіямі павінна быць ўвязана са справаздачна-перавыбарчай кампаніяй саветаў.

Як-жа выконвалася дырэктыва па пытаньні конкурсу і як на мясцох падрыхтаваліся да абгляду масавай работы саветаў?

Выкананьне дырэктыў, а гэта значыць і ўся падрыхтоўка ў акругах, раёнах і гарадзкіх саветах да студзеня месяца не разгарнулася (дырэктывы ў акругах палучаны 15-XI—28 г.). Нават у тых акругах (Бубруйск, Мазыр), дзе акруговыя конкурсныя камісіі былі складзены своечасова, арганізацыйна-падрыхтоўчая работа не праводзілася. Гомель у гэтай справе спазьніўся больш за ўсіх (акруговая конкурсная камісія арганізавана 4-І.).

Трэба сказаць, што пэрыод лістапад-сьнежань у дачыненьні правядзеньня падрыхтоўчай работы да конкурсу ў цэнтрах акруг і па раёнах яўляўся найбольш спрыяючым: на працягу гэтага часу адбывалася шэраг розных нарад і пленумаў. Нажаль, ніводнага з акруг не паклапаціліся, каб на гэтых пленумах і нарадах загастрыць думку актыву, друку і грамадзкіх арганізацый на пытаньні правядзеньня конкурсу.

Дырэктывы акруговых выканаўчых камітэтаў, якія пасылаліся райвыканкомам і гарадзкім саветам па пытаньням конкурсу, ня ўносілі належнай яснасьці.

Бабруйскі акрвыканком прапанаваў райвыканкомам, каб яны да справы правядзеньня конкурсу прыцягнулі піянэрскія арганізацыі і адначасова нічога не сказаў аб залучэньні ў гэтую справу камсамолу. У гэтым-жа паказаньні запрапанована скласьці камісіі садзейнічаньня па правядзеньні конкурсу і пры сельскіх саветах, але не растлумачана, што павінны рабіць камісіі садзейнічаньня пры с-саветах.

Гомельскі акрвыканком па тэй прычыне, што дырэктывы ім былі затрыманы, тэрмін унутры акруговага конкурсу устанавіў з 27 сьнежня (27-XII разасланы цыркуляр) па 1 лютага. Гэта значыць, што райвыканкомы, гарадзкія саветы і сельскія саветы павінны на працягу аднаго месяца правясьці падрыхтоўку і ўсю астатнюю працу па конкурсу. Часу, бязумоўна, мала. Тут ужо нельга гаварыць, што вакол конкурсу ня будзе загострана ўвага савецкай грамадзкасьці. Есьць пагроза, што гэта важнейшае мерапрыемства, накіраванае выключна ў бок ажыўленьня масавай работы саветаў, у Гомельшчыне пройдзе праз канцылярыі.

Дырэктывы ўраду па пытаньні правядзеньня конкурсу ўсклалі канкрэтныя абавязкі і на акруговыя газэты—яны павінны былі арганізаваць вакол справы конкурсу рабкораў, сялькораў, актыў саветаў і, наогул, усю савецкую грамадзкасьць. Але і тут таксама амаль што нічога ня зроблена.

Усю арганізацыйна-падрыхтоўчую работу ў адзначаных акругах да часу праверкі прыблізна можна характарызаваць так: мерапрыемствы конкурсу ня ўвязваліся са справаздачна-перавыбарчай кампаніяй; меркавалася, што конкурс трэба праводзіць, як асобную кампанію; падрыхтоўчыя мерапрыем-

ствы там, дзе яны ў нязначанай ступені праводзіліся (Бабруйск) характару масавасьці ня мелі.

Пералом у рабоце па правядзеньні конкурсу пачынаецца з таго часу, як у памянёных акругах была праведзена праверка выкананьня імі дырэктыў па даным пытаньні Арганізацыйным аддзелам Прэзыдыуму ЦВК.

З гэтага часу распачалі працу акруговыя конкурсныя камісіі. Яны на першых сваіх пасяджэньнях прынялі шэраг канкрэтных пастаноў. Усе таварышы, якія выяжджаюць у раёны, інструктуюцца аб тым, што ім неабходна зрабіць у сельскіх саветах і раёнах па пытаньні конкурсу.

Таксама распачалі працу камісіі садзейнічаньня пры гарадзкіх саветах. Адбыліся шырокія нарады актыву ўсіх сэкцый гарсаветаў. Гэтыя нарады намецілі канкрэтны плян свайго ўдзелу ў конкурсе. Справаздача сэкцый будзе вынесена на абмеркаваньне рабочых сходаў і пленумаў сэкцый.

Акруговыя газэты прыблізна з 5 студзеня пачалі зьмяшчаць кіруючыя артыкулы і карэспандэнцыі аб рабоце сельскіх саветаў; намечана правясьці адпаведную работу сярод рабкораў, сялькораў і кіраўнікоў сьценгазэт. Далейшае разгортваньне ўсяе работы па правядзеньні конкурсу залежыць у значнай меры ад настойлівасьці кіруючых работнікаў,-выканкомаў і саветаў і ад таго, наколькі у гэтую справу будуць уцягнуты грамадзкія арганізацыі, рабочыя з прадпрыемстваў і бядняцка-серадняцкі актыў вёскі.

Мэта конкурсу зробіць ацэнку дзелавой і масавай рабоце саветаў, іх сэкцый і камісій ў акругах, раёнах і саветах. І калі акруга, раён, савет ня будуць прымаць ўдзелу ў конкурсе, гэта будзе азначаць, што дзелавая і масавая работы ў іх пастаўлены ня зусім задавальняюча.

Л—ч.

# Сэкцыя працы.

## (Менскі Гарадзкі Савет).

Сэкцыя Працы Менскага Гарадзкога Савету апошняга скліканьня складалася з 36 членаў і кандыдатаў гарсавету і 41 чалавека прымацаваных к ёй для работы дэлегатак і рабочых ад варштату.

Сэкцыяй для абслугоўваньня асобных галін работы былі вылучаны тры камісіі: адна па працоўных калектывах, адна—па грамадзкіх работах і адна па Біржы Працы. Апошнія дзьве камісіі ў верасьні 1927 году зьліліся ў адну з прычыны нязначнага ліку членаў у кожнай з іх.

Практычныя вынікі работы сэкцыі наступныя:

1) Дзякуючы настойлівасьці сэкцыі працы, начлежны дом для жанчын-адзіночак быў пераведзены ў новы будынак. Раней ён займаў тры маленькія вільготныя пакоі, у якіх ледзь зьмяшчалася 28 чал., прычым ніякай культурнай работы там не праводзілася. У новым начлежным доме—7 пакояў, у якіх разьмешчана 56 чал. Выпісваюцца 5 газэт і некалькі часопісяй. Тры разы на тыдзень праводзяцца прымацаванай дэлегаткай заняткі па ліквідацыі няграматнасьці. Пабудаван Ленінскі куток. Сэкцыя пастаянна клапоціцца аб рэгуляваньні пасылкі начлежніц на работу і раздачы бясплатных абедаў. Цяпер праводзіцца мэдыцынскае абсьледваньне ўсіх гэтых жанчын.

2) Адчынена сталоўка, якая выдае каля 500 абедаў у дзень.

3) Пэрыядычна праводзіліся абсьледваньні грамадзкіх работ, прычым асаблівая ўвага была зьвернута на павялічэньне проценту занятых на рабоце жанчын, на пытаньні аховы працы, на ўстанаўленьне нармальных адносін паміж рабочымі і адміністрацыяй, на своечасовую выдачу зарплаты і на здавальненьне рабочых больш годным для работы інвэнтаром.

Па дакладу камісіі, вылучанай для абсьледваньня грамадзкіх работ, прэзыдыум гарсавету прыняў шэраг мер для ўстараненьня недахопаў і правільнага выкарыстаньня рабочае сілы.

4) Вялікай работай, якая праведзена сэкцыяй па Біржы Працы, трэба лічыць абсьледваньне беспрацоўных, якія ўзяты на вучот Біржы Працы. Абсьледваньне праводзілася на працягу ўсяго справаздачнага перыяду. Асабліва вялікая работа ў гэтым кірунку была праведзена за апошнія месяцы 1927 г. (яна адбываецца і цяпер), у сувязі з перарэгістрацыяй усіх беспрацоўных. Па пастанове гарсавету ў гэтую работу, якая патрабуе вялікага напруджаньня сіл, былі залучаны члены гарсавету з іншых сэкцый, але асноўная работа выканана членамі сэкцыі працы і прымацаванымі да яе дэлегаткамі. Абсьледваліся найбольш адлеглыя кварталы і акраіны гораду: Камароўка, Койданаўскі шлях і г. д. Усяго за гэты час абсьледвана 5.200 беспрацоўных.

5) Для ўстанаўленьня чаргі пасылкі на работу абсьледваных беспрацоўных, пры кожнай сэкцыі Біржы Працы па пастанове гарсавету, былі створаны камісіі па 4 ч. ў кожнай (загадчык, прадстаўнік саюзу і два члены сэкцыі працы гарсавету). Такім чынам, сэкцыя працы прыняла непасрэдны ўдзел у рэгуляваньні самага хворага пытаньня, злучанага з беспрацоўем.

6) У галіне працоўных колектываў сэкцыяй была вылучана камісія для абсьледваньняў, у выніку работы якое ўдалося выправіць многа ненармальнасьцяў. Даволі моцныя працоўныя калектывы, як «Усход», Белларок, кіно «Інтэрнацыянал», «Чырвоны Хэмік», клеяварныя і цагельныя заводы былі перададзены гаспадарчым органам. Замест іх пашыраны старыя і адчынены новыя працоўныя калектывы (калектыў шчотачнікаў пашыраны да 630 чал.). Была ўведзена плянавая перамена рабочых у працоўных калектывах пры ўстаноўленым 26 проц. сталым штаце.

Слабым бокам ў рабоце сэкцыі зьяўляецца невыстарчальная актыўнасьць яе членаў: на 16-ці пасяджэньнях сэкцыі, праведзеных у справаздачны пэрыяд, сярэдняя наведваемасьць складала толькі 39 проц. Фактычна актыўнымі працаўнікамі з 36 членаў сэкцыі (лічачы членаў і кандыдатаў гарсавету), было толькі 14, з іх 11 членаў і 3 кандыдаты. Тое-ж зьявішча і сярод дэлегатак: 11 чалавек найбольш актыўныя з іх наведалі сэкцыю 3 разы, 16—ня былі на пасяджэньні ніразу.

Члены сэкцыі працы гарсавету:

**Г. Райхельсон, О. Малініна.**

# Праца па нарасьвеце.

## Сэкцыя нарасьветы Бабруйскага гарсавету.

У сэкцыю нарасьветы Бабруйскага гарсавету ўваходзіць 32 дэпутаты з іх: 9 рабочых, 9 служачых, 2 саматужнікі і 11 вайскоўцаў. Апрача гэтага, да сэкцыі прымацаваны 8 дэлегатак, 4 камсамольцы і 4 рабочых.

Бюро сэкцыі, якое зьбіралася 2—3 разы ў мес., складаецца з 7-мі дэпутатаў, прычым, толькі 3 з іх зьяўляюцца членамі саюзу Працасьветы.

Арганізацыя працы сэкцыі наступная: бюро выпрацоўвае плян працы на вызначаны пэрыяд (звычайна на 3 мес.). Плян гэты заслухоўваецца, затым, пленумам сэкцыі (пленум склікаецца 1—2 разы ў мес.), які, па абгаварэньні і ўнясеньні зьмен, зацьвярджае яго. Наведваньне пленумаў членамі сэкцыі—70 проц.

Каб быць у курсе жыцьця культасьветных устаноў, да іх прымацаваліся асобныя члены сэкцыі, а таксама дэлегаткі, якія час ад часу павінны былі рабіць адпаведныя інфармацыі аб гэтых установах на бюро сэкцыі.

Калі ў плян працы ўваходзіла спэцыяльнае абсьледваньне якойнебудзь установы, то ў камісію па па абсьледваньні ўваходзіў і прымацаваны, які звычайна рабіў садаклад к дакладу загадчыка ўстановы.

Апрача такой сувязі з установамі, бюро сэкцыі падтрымлівала самую шчыльную сувязь з гарадзкім інспэктарыятам нарасьветы і прымала ўдзел у абгаварэньні яго мерапрыемстваў, часта ўносіла свае новыя прапановы і сачыла за праявдзеньнем іх у жыцьцё.

З мэтай папулярызацыі працы савету і ўвязкі свае працы з працай іншых сэкцый асобныя члены сэкцыі нарасьветы часова прымацоўваліся да іншых сэкцый, склікаліся агульныя пленумы некалькіх сэкцый, вылучаліся дэпутаты для ўдзелу ў пасяджэньні прэзыдыуму гарсавету.

Пяройдзем да самога зьместу працы сэкцый.

1. З мэтай забесьпячэньня школы падручнікамі і вучэбнымі прыладамі, бюро сэкцыі ў канцы навучальнага году дагаварваецца з аддзяленьнем Дзяржвыдавецтва аб своечасовым атрыманьні падручнікаў да пачатку новага навучальнага году, а таксама арганізацыі кутка навучна-пэдагогічнай літаратуры пры пэдагагічным габінэце клюбу працаўнікоў асьветы, адкуль кожны настаўнік можа на пэўны час браць дарэмна на прагляд той ці іншы падручнік, тую ці іншую навіну пэдагагічнай літаратуры.

Побач з гэтым, сэкцыя дагаварваецца з аддзяленьнем Белдзяржвыдавецтва аб арганізацыі распаўсюджваньня кніг на прадпрыемствах, што і выконваецца выдавецтвам праз актывістых-камсамольцаў, якія на сваіх прадпрыемствах распаўсюджваюць найбольш даступныя і карысныя кнігі сярод сваіх таварышоў-рабочых (на сьпіртага-рэлачным заводзе, хлебапякарнях ЦРК, пільнях). Такая-ж работа праводзіцца і ў Чырвонай Арміі праз вайсковых бібліятэкараў.

Сэкцыяй прапанованы былі Белдзяржвыдавецтву і такія мерапрыемствы, як апавяшчэньне бібліатэкі, пэдагагічнага габінэту і іншых устаноў нарасьветы аб атрыманых новых кніжках, шляхам рассылкі і вывешваньня сьпісаў атрыманых кніг і г. д. У выніку мерапрыемстваў сэкцыі, школы атрымалі магчымасьць набываць найбольш даступныя навучальныя прылады ў аддзяленьні Белдзяржвыдавецтва.

2. З мэтай больш правільнага ўкамплектаваньня школ вучнямі, сэкцыя прыняла пастанову аб прымацаваньні дэпутатаў, дэлегатак, камсамольцаў і рабочых да прыймова-школьных камісій. У выніку—школы лепш ўкамплектаваны.

3. Каб забясьпечыць захаваньне клясавага прынцыпу ў абкладаньні вучняў платай за навучаньне, сэкцыя прымацавала да старэйшых канцэнтраў дэпутатаў, дэлегатак, камсамольцаў і рабочых. Асобна вылучаны камісіі для абсьледаваньня платнасьці ў школе, якія праводзяць абсьледаваньне матар'яльнага становішча вучняў па дамох. Асобна абгаварвалася пытаньне аб платнасьці ў старэйшых групах, бо 8 і 9 гады навучаньня існуюць на самааплаце цалкам. Сэкцыя прышла да вываду, што ў далейшым трэба ўзяць курс на зьнішчэньне самааплаты ў гэтых групах.

4. У канцы навучальнага году сэкцыяй абгаварваецца пытаньне рамонту, супольна з інспэктарыятам, устанаўляецца распарадак і час яго, разьмяркоўваюцца сумы па школах, а ў пачатку навучальнага году камісіі сэкцыі правяраюць рамонт.

5. Жывы ўдзел прыняла сэкцыя і ў абгаварэньні пытаньня аб пабудове новага прымітыву. Па гэтым пытаньні былі спрэчкі з прэзыдыумам гарсавету, але па прычынах тэхнічнага і фінансавага характару прэзыдыум з патрабаваньнямі сэкцыі не згадзіўся. Пабудова гэтай школы амаль скончана.

Таксама сэкцыяй абгаворана пытаньне і аб пераабсталяваньні былой яўрэйскай дзіцячай калёніі пад польскую школу, якое абышлося ў 15.000 руб. і цяпер польская сямігодка мае вельмі добрую школу з інтэрнатам.

6. Былі заслуханы даклады яўрэйскай і беларускай сямігодак, беларускай прымітыўкі і садаклады прымацаваных да гэтых школ дэпутатаў. Выяўленыя пры гэтым недахопы матар'яльнага парадку былі выпраўлены (пабудаваны паркан пры 2-й школе, зволен непадыходзячы тэхпэрсанал, пабудаван хлеў пры 6-й школе, дадзены дырэктывы для зьнішчэньня недахопаў вучэбна-пэдагагічнага характару).

7. Шмат разоў абгаварваліся на пасяджэньнях бюро і пленуму сэкцыі санітарнае становішча і мэдыцынскае абслугоўваньне школ. Асобная ўвага зьвярталася на тое, што школы на акраінах зусім не наведваюцца дактарамі. Гэта пытаньне і дагэтуль ня вырашана, бо гарсавет не дае школьным дактаром коняй, а яны ня хочуць наведваць школы пехатой.

8. Умелае выкладаньне гігіены ў школе можа адыграць вялікую ролю. Сэкцыя неаднаразова абгаварвала гэтае пытаньне, але не магла дабіца таго, каб гігіена стала прадметам выкладаньня ва ўсіх школах; покуль што сэкцыя дабілася выкладаньня гігіены толькі ў вячэрніх школах, і то... 2 разы ў месяц і за лік гадзін іншых лекцый: адзін раз адзін настаўнік павінен уступіць сваю лекцыю ў карысьць гігіены, другі раз—другі настаўнік.

9. Абсьледваньні камісій і прымацаваных да сэкцыі, даклады настаўнікаў фізкультуры, выступленьні настаўнікаў на пасяджэньнях сэкцыі паказалі, што з фізкультурай было вельмі і вельмі ня добра.

Сэкцыя прымае па гэтым пытаньні шэраг пастаноў, якія част-

некалькі разоў на абсьледуемых прадпрыемствах і ўстановах.

Кожная, вызначаемая для абсьледваньня камісія інструктавалася на бюор ў якім напрамку весьці абсьледваньне, як прыцягнуць да абсьледваньня працоўных, на што зьвярнуць увагу і г. д. У кожную камісію ўключаліся як члены сэкцыі, таксама і прымацаваныя працоўныя і дэлегаткі. Асабліваю актыўнасьцю вызначаліся прымацаваныя дэлегаткі на самастойных заданьнях. Вынікі абсьледваньняў сэкцыі асьвятляліся ў мясцовым і цэнтральным друку.

Праз 2 месяцы пасьля абсьледваньня Сэкцыя правярала выкананьне прапаноў сэкцыі. Трэба адзначыць, што 85 проц. прапаноў сэкцыі праведзена ў жыцьцё; не праведзены ў жыцьцё; толькі тыя прапановы, якія зьвязаны з затратаю грошай.

Па неплянавай працы сэкцыяй расьсьледваны паступаўшыя скаргі 138 газэтных заметак (зараз-жа па атрыманьні гэтакіх, так што скаргнікі ў працягу тыдню ведалі аб прынятых мерах). З паступіўшых 147 скарг толькі 23 аказаліся неправдзівымі. Характар паступіўшых скарг—у большасьці на няправільныя ўчынкі біржы працы, страхкасы і цэнтральнай амбуляторыі. Прынятыя сэкцыяй меры садзейнічалі палепшаньню пастаноўкі працы даных устаноў, у зжываньні чаргі, скарачэньні хаджэньня за справамі і г. д.

Для палепшаньня сувязі работы сэкцыі з масамі, сэкцыяй вывешаны ў вялікіх установах і прадпрыемствах скрынкі для скарг і прапаноў. Скрынкі далі станоўчыя вынікі, на скаргі даюцца адказы ў насьценгазэтах, тых прадпрыемствах, з скрынак, якіх атрыманы скаргі; наладжана сувязь з леспазаводамі, біржай працы і страхкасай. У выніку ў апошні час стала паступаць значная колькасьць канкрэтных прапаноў, як палепшыць работу той ці інш. установы, прычым у большасьці выпадкаў яны праведзены ў жыцьцё.

Апрача пералічанай работы, сэкцыя выконвала масавыя абсьледваньні па даручэньні АКК РСІ, якія ў плян сэкцыі не ўваходзілі, як напрыклад: абсьледваньне 20 проц. зьніжэньня адм.-гасп. выдаткаў, яўка супрацоўнікаў на работу, рух скарг унутры ўстановы і ў пракуратуры і г. д.

Сэкцыя сваёю працаю заслужыла аўтарытэт сярод рабочых колаў, што відаць з таго, што шмат хто з рабочых прыходзіць у сэкцыю парадзіцца, іншы раз, нават, па такіх пытаньнях, якія ніяк не дачыняюцца дзейнасьці сэкцыі.

У сэкцыю часта паступаюць просьбы прысылаць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў рэвізіях, у перадачы спраў адным кіраўніком другому.

Усе пратаколы сэкцыі абгаварываліся і зацьвярджаліся прэзыдымам гарсавету.

**Старшыня Сэкцыі РСІ.**

---

# Слова Камунальнае сэкцыі Мазырскага гарсавету.

Камунальная сэкцыя канчаткова аформілася як масавы орган і займае даволі віднае месца ў агульнай працы гарсавету, а таксама сярод шырокай масы выбаршчыкаў. Сэкцыя на справе зьяў зьяўляецца памочнікам прэзыдыуму гарсавету ў распрацоўцы гаспадар. і культурных пытаньняў гарадзкога жыцьця. Сэкцыяй за час свайго існаваньня праведзена 55 пасяджэньняў Бюро і 32 пленумы, на якіх разгледжана 325 пытаньняў.

Усе разгледжаныя пытаньні дасканала падрыхтоўваліся шляхам папярэдніх аглядаў, для чаго было вылучана 87 камісій, заслухоўваньня дакладаў і г. д., што дало магчымасьць ажывіць работу самое сэкцыі і залучыць у яе актыў. Сваёю дзейнасьцю сэкцыя ахапіла ўсе галоўныя пытаньні камунальнае гаспадаркі гораду, як-скажам: прапрацоўка ўсіх будаўнічых плянаў і праверка выкананьня іх, прапрацоўка пытаньняў будаўніцтва, грамадзкіх работ, дабрабыту, жыльлёвага крызысу, палепшаньня камунальных паслуг і нагляду за ўсёю камунальнаю гаспадаркаю. Усе прапановы сэкцыі прымаліся прэзыдыумам.

За ўвесь час заслухана 10 дакладаў камунальных і прамысловых устаноў гораду, якім даваліся дырэктывы, а выкананьне апошніх сыстэматычна правяралася сэкцыяй.

Сэкцыя працавала паводле плянаў, якія выпрацоўваліся на кожныя тры месяцы на грунце наказаў выбаршчыкаў, дырэктыў Прэзыдыуму і выяўленых момантаў на розных сходах, нарадах і г. д. У канцы плянавага пэрыяду праводзілася праверка выкананьня плянаў. У распрацоўку плянаў залучаліся ўсе дэпутаты і актыў сэкцый.

У сучасны момант ў сэкцыі налічваецца 27 мужчын і 4 жанчыны, 21 рабочы, 13 беларусаў, 18 яўрэяў і 14 чал. актыву (з іх 13 жанчын і 1 мужчына).

Наведваньне дэпутатамі і прымацаванымі пасяджэньняў бюро і пленумаў—добрае, апрача асобных таварышоў. З прымацаванымі праводзілася сталая праца па залучэньні іх ў працу сэкцыі.

Сэкцыя склікала тры разы свае пасяджэньні ў клюбах і прадпрыемствах. Даклады бюро сэкцыі ставіліся на пашыраных пленумах 5 разоў. Апрача гэтага бюро і пленум сэкцыі пэрыядычна вылучалі асобных дэпутатаў для справаздачы перад выбаршчыкамі, у выніку чаго 90 проц. дэпутатаў рабілі справаздачы перад выбаршчыкамі па два разы.

Сувязь сэкцыі з прэзыдыумам гарсавету наладжана належным чынам.

Як адмоўныя бакі ў працы сэкцыі неабходна адзначыць яшчэ недастатковую сувязь з масамі (не праводзіліся плянавыя справаздачы сэкцыі перад выбаршчыкамі, недастаткова залучан актыў і г. д.) і нерэгулярнасьць наведваньня пасяджэньняў сэкцыі некаторымі членамі. Таксама ня ўсе яшчэ дэпутаты ўцягнуты ў практычную працу сэкцыі.

# ШТО КАЖА КААПЭРАЦЫЙНАЯ СЭКЦЫЯ.

## (Мазырскі гарсавет).

Каапэрацыйная сэкцыя сучаснага скліканьня пачала сваю працу якраз у той час, калі прыватны гандаль усё больш і больш пачаў згортвацца і калі насельніцтва амаль поўнасьцю перахадзіла на абслугоўваньне каапэрацыі.

Кабы лепш здаволіць насельніцтва праз каапэрацыю, сэкцыя распрацавала пытаньне аб пашырэньні сеткі крам, якая з 19 крам у 1927 г. павялічалася да 25 крам у 1928 г.

Распрацована пытаньне аб здаваленьні насельніцтва апалам і гароднінай, якая ў звароце ЦРК за 1927 г. зусім ня значылася, а ў 1928 г. складае 15.284 руб.

Вельмі значную ўвагу сэкцыя зварочвала на справу палепшаньня якасьці хлебапячэньня. Гэтае пытаньне ставілася на абгаварэньне сэкцыі сумесна з рабочымі хлебапякарні.

Па ініцыятыве сэкцыі была склікана спэцыяльная нарада прадстаўнікоў зацікаўленых арганізацый па пытаньні аб хлебапячэньні і рэарганізацыі сучаснай хлебапякарні; на нарадзе вынесена пастанова аб абавязковай пабудове новага памяшканьня хлебапякарні, пачынаючы не пазьней як з гэтай вясны.

Трэба адзначыць, што за апошні час мы маем значнае палепшаньне якасьці выпякаемага хлеба, асабліва жытняга.

Для скарачэньня чаргі на хлеб сэкцыяй вынесена прапанова аб выдачы хлеба з усіх крам ЦРК, а таксама аб павялічэньні булачнай, што ўжо выканана і значна зьменшыла чаргі.

Прадпрыемствы ЦРК, як: сталовая, хлебапякарня і каўбасная, былі абсьледваньні сэкцыяй, у выніку чаго палепшылася праца памянёных прадпрыемстваў.

Апрача працы па галіне ЦРК сэкцыя зьвяртала ўвагу на працу жылкаапэрацыі, інвалідаў каапэрацыі, прыгарадняй спажкаапэрацыі, якія былі таксама абсьледваны сэкцыяй.

Па галіне зьніжэньня цэн сэкцыяй праведзена выбарачнае абсьледваньне крам усіх каапэрацыйных і гандлюючых арганізацый.

Для зьнішчэньня непаразуменьняў паміж спажыўцамі і прыказчыкамі быў склікан спэцыяльны пленум сэкцыі сумесна з прыказчыкамі і крамкамісіямі.

Праца сэкцыі праводзілася шляхам абсьледваньня вылучаемымі камісіямі з абгаварэньнем матар'ялаў абсьледваньня, з заслухоўваньнем дакладаў прадстаўніка адпаведных установаў спачатку на бюро, а пасьля—на пленуме сэкцыі.

У сэкцыі разам з сябрамі сэкцыі працаваў каапэрацыйны актыў, які, у якасьці прымацованых да сэкцыі, складаў у 1927 г. 8 чалавек (1 мужчына і 7 жанчын), а ў 1928 г.—15 чалавек (1 мужчына і 14 жанчын).

Для большага ўцягненьня прымацованых у працу сэкцыі яны заўсёды вылучаліся ва ўсе камісіі.

У аснову працы сэкцыі паложаны квартальныя пляны, якія выконваліся ад 75 проц. да 90 проц. Як на недахоп у працы сэкцыі трэба падкрэсьліць недастатковую яўку сябраў сэкцыі на пленумы, усяго да 60 проц., у той час калі яўка прымацованых складала 64%.

---

# На будаваньні культурнага жыцьця

## (г. Віцебск. З газэты „Заря Запада“ 25-І 29 г.).

Работа сэкцыі нарасьветы праходзіць ва ўмовах няспрыяючых для разгортваньня яе дзейнасьці. З аднаго боку,—вялікая раскіданасьць установаў (а іх па гораду маецца больш 100), з другога—большасьць членаў бюро сэкцыі занятыя вячэрняй работай і часта ня могуць выканаць тыя ці іншыя абавязкі, якія на іх ускладаюцца.

Сюды трэба яшчэ дадаць тое, што з усяго складу сэкцыі (29 ч.) больш 10 выбыла з гораду. Такім чынам, засталося 18 чалавек. Але-ж і з гэтага ліку 5—6 таварышоў сыстэматычна не наведвалі пленумы сэкцыі. Наогул, наведваньне пленумаў даходзіла, у сярэднім, да 70 проц. З прымацаваных рабочых выконваюць практычную работу толькі 3 чал.

За справаздачны год адбылося 13 пленумаў сэкцыі і адно пасяджэньне бюро. Трэба сказаць, што бюро, наогул, нельга было ўвесь час склікаць з тае прычыны, што большасьць членаў яго выбыла з Віцебску.

Якія пытаньні прапрацованы сэкцыяй? Трэба зазначыць, што пленумы абгаварылі 18 важнейшых пытаньняў асьветнага будаўніцтва. Сюды адносяцца даклады: палітасьветы, аб становішчы школы кройкі і шыцьця, аб каштарысу асьветных установаў, даклад музэю, таварыства «Прыхільнікі дзяцей», гарадзкога тэатру, таварыства «Прэч няпісьменнасьць» і г. д. Таксама было абгаворана пытаньне аб формах абсьледваньня асьветных установаў—з тым, каб у гэтай справе ўдзельнічалі члены сэкцыі і прымацованыя рабочыя.

Асобна трэба адзначыць разгледжаныя на сэкцыі пытаньні аб пляне работы сэкцыі. Бюро сэкцыі спачатку правяло праверку праведзенай ёю работы з пункту погляду выкананьня наказу Гарсавету.

Усе пытаньні актыўна абгаварваліся членамі сэкцыі. Сярэдні процант выступаючых у спрэчках па таму ці іншаму дакладу дасягае 90—100 проц. Да прыкладу, калі заслухоўваўся даклад палітасьветы, дык у спрэчках выступіла з прысутных 15 чалавек—11 таварышоў. Спрэчкі і пытаньні паказваюць вялікую зацікаўленасьць дэпутатаў, асабліва рабочых, да асьветнага будаўніцтва. Пытаюцца наконт таго, колькі беларускіх кніг у бібліатэках, што зроблена ў адносінах утварэньня грамадзкай думкі вакол яўрэйскага тэатру, як ідзе беларусізацыя ў рабочых школах, ці ёсьць кіраўніцтва работай нядзельнага рабочага унівэрсытэту і г. д.

Крыху трэба спыніцца на мэтадах працы сэкцыі. Калі абгаварвалася пытаньне аб сыстэме нарасьветы і аб каштарысу, удалося прыцягнуць на пленумы сэкцыі, і асьветніцкую масу. Пры заслухоўваньні дакладаў палітасьветы, папярэдне да 6 установ палітасьветы (рабфак, вячэрнія школы, дом кнігі і інш.)—былі прымацаваны члены Гарсавету і рабочыя, якія добра вывучылі пастаноўку работы ў гэтых установах, а затым пасьля дакладу палітасьветы рабілі свае справаздачы. Такім чынам, удалося ўцягнуць шмат дэпутатаў у практычную работу сэкцыі. З гэтага відаць, што ўся работа сэкцыі праходзіла пад лёзунгам найбольшага ўцягваньня членаў Гарсавету ў тую ці іншую практычную работу. Усяго дэпутатамі сэкцыі абсьледвана 22 установы. Апрача таго, усе дэпутаты прымацаваны на ўвесь год да шэрагу ўстаноў нарасьветы (яўрэйская камуна, 36-я чыгуначная школа, музтэхнікум, тэатр, дзіцячыя сады і інш.).

Як ініцыятыву, трэба зазначыць тое, што калі ставіўся на сэкцыі даклад музэю, дык папярэдне члены сэкцыі праўда ў невялічкай колькасьці,—рабілі экскурсію ў музэй. Гэтае мерапрыемства дало дэпутатам магчымасьць больш стала і падрабязна абгаварыць даклад музэю.

Наогул, калі падвесьці вынікі работы, дык можна зазначыць, што, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, сэкцыя нарасьветы пасьпяхова разьвязвала важнейшыя пытаньні нашага культурнага будаўніцтва.

Асобна адзначым адно пытаньне, якое таксама было разьвязана сэкцыяй, хоць яно, як быццам, і ня мае адносін да сэкцыі. Мы гаворым аб піўных. Кіраўніцтва заводам «Левенбрэй» пажадала адчыніць у горадзе, так званыя, «дзяржаўныя» піўныя. І калі гэтае пытаньне прэзыдыум Гарсавету перадаў у сэкцыю нарасьветы, дык увесь пленум адзінагалосна адхіліў гэты «праект», які супярэчыць задачам культурнай рэвалюцыі.

**Ведаючы.**

# Што зроблена Краснаборскім сельсаветам.

## (Расонскі раён).

Красноборскі сельсавет налічвае 62 населеных пункты з колькасьцю 518 двароў. Насельніцтва сельсавету складаецца пераважна з сераднякоў. Бясконных гаспадарак—20, з адным канём—416, з двума канямі—45 і з трымя —3 гаспадаркі.

У склад сельсаветаў уваходзіць 13 членаў і 5 кандыдатаў, з іх: адна сялянка, адзін партыец і адзін камсамолец. У рэвізыйную камісію было абрана 3 чал. Праўда—некаторыя сябры сельсавету працавалі слабавата. Пры сельсавеце складзены камісіі: зямельная, культурна-санітарная і лясная Камісіі вялі работу добра, апроч культурна-санітарнай, дзе сябры камісіі настаўнікі чамусьці нядбайна адносіліся да сваіх абавязкаў.

За справаздачны пэрыяд адбылося 10 пленумаў савету, 16 паседжаньняў і 30 сялянскіх сходаў. На пленумах разабралі пытаньні: наконт папраўкі дарог і мастоў, аб падатку і самаабкладаньні, заслуханы справаздачы дабраахвотных арганізацый, арганізацый па пераходу на шматпольле, справаздачы машынных таварыстваў і г. д.

Пленумы савету праводзіліся акуратна, выключаючы невялічкія перапынкі ў летні час. Для ўцягненьня ў працу шырокіх мас і вырашэньня розных пытаньняў, сельсавет практыкаваў скліканьне сходаў па больш буйных вёсках. За ўвесь час былі зроблены два абгляды работы сельсавету старшынёю АВК і членам ЦВК БССР, дзе дадзены былі практычныя паказаньні для далейшае работы.

Уся работа савету была з'асяроджвана вакол выкананьня наказу, дадзенага выбаршчыкамі ў мінулым годзе. Маецца некаторае пашырэньне пасяўное плошчы. Адпушчана бяднейшаму насельніцтву праз крэдытнае таварыства: ячменю—150 пудоў, аўса—400 пудоў, насеньня канюшаны—10 пудоў, штучнага ўгнаеньня—500 пудоў. Арганізована два міліарацыйных таварыствы, адно машыннае таварыства. Землеўпарадкаваньне-ж па сельсавету пакуль што яшчэ не праведзена.

Цэлы шэраг вёсак сельсавету мае пры сабе лес мясцовага значэньня, адкуль і атрымліваюцца будаўнічыя матар'ялы і дровы. Тыя-ж вёскі, пры якіх няма лесу мясцовага значэньня — забясьпечваюцца дзяржаўным лесам. У гэтым годзе бядняцкім гаспадаркам адпушчана дармова лесу на 216 руб., у крэдыт—на 2000 руб., а таксама складзена камісія для забесьпячэньня гаспадара за грошы лесам.

Самаабкладаньне прайшло па ўсіх вёсках сельсавету. Сабрана сродкаў на 628 р. 42 к. з гэтых сродкаў скарыстана на пабудову інтэрнату 426 руб., а астатнія грошы знаходзяцца ў касе ашчэднасьці. 2-ая пазыка індустрыялізацыі рэалізавана па нашаму сельсавету на 800 рублёў (а трэба 840). Сялянская-ж пазыка была распаўсюджана 540 рублёў.

Па сельсавету было налічана падатку 7816 р. 88 кап. з гэтае сумы зьнята беднякам і сем'ям чырвонаармейцаў 2047 р. 62 капеек. Страхоўкі налічана 2248 руб., а зьнята 297. Такім чынам сельсавет аказваў дапамогу беднаце.

У галіне каапэрацыйнае справе зроблена наступнае: маецца адна спажывецкая крама, якая і забясьпечвае насельніцтва неабходнымі таварамі. Амаль што ўся бедната каапэравана за кошт фонду беднаты. Па сельсавету 85 процантаў гаспадарак зьяўляецца пайшчыкамі спажывецкае каапэрацыі.

У сельсавеце маецца малочная арцель з 250 рублямі паявога капіталу і 80 пайшчыкамі. Арцель працуе слабавата. Прыбытку няма, а маецца дыфіцыт мінулага году. На арцель сельсавет зьвярнуў мала ўвагі, ад чаго і заўважаліся некаторыя ненармальнасьці ў рабоце арцелі.

Культурна-асьветная справа ў сельсавеце пастаўлена добра. Маецца тры школы, з якіх: адна сямігодка і 2 аднакамплектовых школы. Пры савеце адчынена 8 лікпунктаў для дарослых няпісьменных сялян і сялянак. Усяго дзяцей вучнёўскага ўзросту ў нас налічваецца 380 асоб, а наведваюць школы І ступені 220 чалавек. Астатнія-ж дзеці знаходзяцца дома з-за недахопу месца ў школе.

Пры савеце існуе некалькі грамадзкіх арганізацый—яч. МОПР'у (налічваецца 120 чалавек), яч. асоавіяхіма, яч. «Пн» (налічвае 80 членаў) і інш. Гэтыя арганізацыі працавалі слаба. З выпіскай газэт таксама справа ня зусім ладна—выпісваецца якіх небудзь 100 з лішнім экзэмпляраў розных газэт, з іх 10 экз. «Чырвонае Полаччыны». Апошняя распаўсюджана слаба і сельсавет не зьвяртаў належнае ўвагі на гэта.

**Янка Скарновіч.**

# Сёмкава-Гарадзецкі сельсавет уздымаецца.

## (Заслаўскі раён, Менскай акругі).

Сёмкава-Гарадзецкі сельсавет, мае 3.155 дз. воранай зямлі і 1036 дз. не заліўной сенажаці. Савет абслугоўвае 578 двароў з агульным лікам насяленьня ў 3261 душ. На тэрыторыі савету знаходзяцца 5 школ, з якіх адна семігодка, урачэбны пункт, хата-чытальня, каапэратыў, 4 чырвоных куткі і тарпяное таварыства. Склад сельсавету бядняцка-серадняцкі.

У сельсавеце ёсьць 4 пасёлкі. Усе пасёлкі землеўпарадкаваны на былых панскіх землях. У сярэднім на кожную гаспадарку прыходзіцца 6,68 дзес. Пасёлак Падалянка пераведзен на чатырохпольле, астатнія пасёлкі—на адрубных вучастках. Праведзена абрэзка зямлі 2-х заможных гаспадарак.

У першую чаргу надзяляліся безьзямельныя сем'і былых чырвонаармейцаў і малазямельныя бедняцкія гаспадаркі. Разьмяркована фондавай сенажаці 53½ дзес. і воранай зямлі—5½ дзес.

Па разьвіцьцю тэхнічных культур сялянскія гаспадаркі павялічваюць плошчу канюшыны, серадэлы, вікі і льнбіну (пад угнаеньне). На штучныя ўгнаеньні сярод насельніцтва адчуваецца вялікае запатрабаваньне.

У разьвіцьці сельскай гаспадаркі насельніцтву дапамагалі і дапамагаюць с-гаспадарчая каапэрацыя і Цэнтраземсклад, якія ў першую чаргу крэдытуюць бядняцкія і серадняцкія гаспадаркі, як палепшаным насеньнем, так і сельскагаспадарчымі машынамі.

Рост забясьпячэньня сельска-гаспадарчымі машынамі малюецца наступнымі лічбамі:

| | 1927 г. | 1928 г. | Павялічэньне |
|---|---|---|---|
| Малатарні чыгун. кон. | 29 | 44 | 15 |
| „ чыгун. ручн. | 11 | 15 | 4 |
| „ мясц. дзеравян. | 53 | 59 | 6 |
| Арфы . . . . . . | 71 | 85 | 14 |
| Сячкарні чыгун. . . | 136 | 225 | 89 |
| „ дзеравяныя | 32 | 42 | 10 |
| Драпакі . . . . . . | 36 | 48 | 12 |
| Жняяркі . . . . . | 6 | 17 | 11 |
| Сеялкі . . . . . . | 1 | 1 | — |

У сельсавеце ёсьць дзіцячая калёнія «Сёмкава», якая дапамагае насельніцтву абменам палепшанага насеньня (у час васеньняй кампаніі абменена 200 пудоў рознага збожжа), апрацоўкай зямлі бядняцкіх і бяскоиных гаспадарак (патрачана 30 паракопных дзён) і сельска-гаспадарчымі машынамі побач з гэтым адсартавана 600 пудоў рознага збожжа і ачышчана ад благіх траў 1505 пудоў насеньня. Пры калёніі існуе семігодка, вучні—камсамольцы якое абслугоўваюць тры лікпункты і разам з настаўнікамі дапамагаюць праводзіць розныя паліткампаніі. Калёнія карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод вакольнага насельніцтва.

Самаабкладаньне праведзена на 2823 рублі. За самаабкладаньне куплены наступныя с-гаспадарчыя машыны: жняярка, дзьве малатарні, адна зернечысьцілка, 10 драпакоў, 10 акучнікаў, адна сячкарня, 6 арфаў і інш. Апрача гэтага куплен адзін бык. На ўсё гэта затрачана 1522 руб. 49 к.

У крэдытнай каапэрацыі «Пчала» ёсьць 108 пайшчыкаў, з якіх 10 бядняцкіх сем'яў каапэравана самой каапэрацыяй. Каапэрацыяй дадзены наступныя ільготы: доўгатэрміновы крэдыт пасялкоўцам і бяднейшаму насельніцтву, у васеньнюю пасяўную кампанію адпушчана 170 пудоў аўсу і грашыма на авёс—80 руб., на канюшыну 200 р., на люпін—40 руб., на віку—25 руб. і на сельска-гаспадарчыя машыны—100 руб.

У спажывецкай каапэрацыі «Земляроб» на 1-га кастрычніка 1927 г. было 909 пайшчыкаў. З 1-га кастрычніка 1927 г. на 1-е кастрычніка 1928 г. стала 2509 пайшчыкаў. Паявы капітал на 1-е кастрычніка 1927 г. складаў 1849 р., а на 1-га кастрычніка 1928 г.—14.112 руб. Гадавы зварот на 1927 г.—373.371 руб., а на 1-га кастрычніка 1928 г.—785.752 руб. Крама № 7 «Земляроба», якая знаходзіцца ў С.-Гарадку, за час з 1-X—1928 г. па 25-XI—1928 г. загатовіла:

| | Загатоўлена ў кілёграмах | Паступіла фунтавога збору | Прадана ў лаўцы | Здана на базу Белкаапсаюзу | Засталося загатовіць |
|---|---|---|---|---|---|
| Жыта . . . . | 671 | 5441 | 655 | 5457 | 34329 |
| Аўсу . . . . | 32 | 3310 | 262 | 3880 | 2968 |
| Ячменю . . . . | — | 3493 | 655 | 8233 | 6000 |
| Ільнянога семя. . | 81 | — | — | 81 | 4919 |

У 1927 г. было вызвалена ад сельска-гаспадарчага падатку 107 гаспадарак на суму 2493 руб. 78 к., а ад страхоўкі—55 галоў на суму 192 руб. У 1928 годзе вызвалена ад сельска-гаспадарчага падатку 104 гаспадаркі на суму 2997 руб. 46 кап., ад страхоўкі—88 гаспадарак на 340 руб. У мінулым годзе адпушчана бясплатна лесу на 150 руб., у крэдыт—на 500 руб.; у гэтым-жа годзе бясплатна адпушчана на 250 руб. і ў крэдыт—на 600 р. Каапэравана 67 гаспадарак у спажывецкую каапэрацыю. Камітэтам узаемадапамогі пазычана збожжа 1857 кілёграм і грашыма—145 руб. Дадзена дапамога 23 бясконным гаспадаркам шляхам заворкі іх палеткаў, на што было патрачена 32 кон. дні.

Батракі цалкам ахоплены працоўнымі дагаворамі і з імі вядзецца рабочкомам сталая праца.

Па сельсавету ёсьць 5 школ, з якіх адна семігодка і 16 настаўнікаў. У вясковых школах навучаецца 315 чалавек. Арганізавана пяць лікпунктаў, дзе навучаецца 217 чалавек.

У сельсавеце ёсьць адна хата-чытальня і 4 чырвоных куткі. Пры хаце-чытальні існуе бібліятэка з 692 кніжкамі (старыя брашуры). Ёсьць радыёўстаноўка з гучнагаварыцелем, палітычны і драматычны гурткі і даведчы стол. Хатай-чытальней пастаўлена 32 спэктаклі і прапушчана 13 кіно-перасовак; праводзіліся лекцыі, чыткі газэт і розныя гутаркі; даведчым сталом напісана 157 заяў па розных справах. Выпісваецца газэт і часопісаў па сельсавеце 289 экзэмпляраў, што складзе на кожныя два двары па аднэй газэце.

У сельсавеце ў мінулым годзе быў адзін мэдпункт, які абслугоўваў С.-Гарадзецкі і Бараўскі сельсаветы. У сучасны момант ёсьць урачэбны пункт з доктарам, фэльдшарам і акушэркай. Мэдпамога робіцца насельніцтву дастаткова.

У 1927 годзе было 2 пажарных дружыны, якія мелі: 1 гідрапульт, 2 пажарных машыны, 4 бочкі і

2 плашчадкі, 11 коняй і 53 дружыньнікі. У сучасны момант налічваецца 5 пажарных дружын, якія маюць 5 пажарных машын, 1 гідрапульт, 3 плашчадкі, 11 бочак і адно дэпо, 26 коняй і 128 дружыньнікаў.

У час Кастрычнікавых сьвят былі манэўры ўсіх дабрахвотна-пажарных дружын. Выявілася, што дружыньнікі добра падрыхтаваны і дасканала ведаюць сваю справу.

У карыстаньні Сёмкава-Гарадзецкага сельсавету ёсьць 135 дзесяцін лесу мясцовага значэньня. Сельсаветам, разам з сельска-гаспадарчай камісіяй і другімі арганізацыямі, у гэту вясну абсеяна хвояй каля 12 гэктараў.

Для зьнішчэньня апалавага крызысу сельсаветам арганізавана тарфяное таварыства, у якім налічваецца 69 пайшчыкаў з паявым капіталам у 136 руб. і ўступным—у 84 р. 50 кап. Плошча торпараспрацоўкі—73 гэктары. У гэтым годзе ўжо распачалі працу; здабыта 10 кубаў торпу.

Сельсаветам пабудавана 5 новых мастоў і зроблены рамонт трох старых мастоў.

Дзякуючы добрай працы падатковае камісіі і арганізаванасьці беднаты, па сельсавету выяўлена 248 гэкт. утоенай зямлі. Значнае павячэньне аб'ектаў ападаткаваньня дала жывёлагадоўля. Загэтым і падатак павялічыўся на 6081 руб. Усяго падатку ў гэтым годзе 19.396 руб. 23 кап.

Пры сельсавецце ёсьць 5 камісій: сельска-гаспадарчая, культасьветная, дабрабыту, каапэрацыйная і падатковая. З камісій працавалі добра: культасьветная, падатковая і дабрабыту, а астатнія—зусім не працавалі.

Прэзыдыум сельсавету працаваў добра, дзякуючы кіраўніцтву партячэйкі. У працы сельсавета вялікую ролю грала і камсамольская ячэйка, якая разам з партыйнай ячэйкай дапамагала сельсавету ў правядзеньні розных мерапрыемстваў.

**Мятла.**

# Як ня трэба працаваць

**(Сл.—Кучынскі с-с. Капыльскага р-ну, Меншчына).**

Сельсавет абслугоўвае 32 пункты ў 582 гаспадаркі. Пункты падзяляюцца так: вёсак—7, пасёлкаў—8, хутароў—13 і засьценкаў—4. Насяленьня ў савеце—2.985 чалавек.

Калі зьвярнуць увагу на культурнае абслугоўваньне насяленьня гэтага с-с, паслухаць гутаркі сялян, то можна сказаць, што праца у гэтай важнай галіне адсутнічае. На 582 гаспадаркі выпісваецца 98 экзэмпляраў розных газэт і часопісяў. Ніякай рэальнай працы па распаўсюджваньні газэты «Беларуская вёска» няма; ад гр-н можна часта пачуць «на што гэта ўсім з хаты іці на сход ці на перавыбары, калі хопіць аднаго гаспадара з двара». С-савет ня цікавіўся працай і мала чаго канкрэтнага перад насельніцтвам высоўваў па барацьбе з алкаголем. Калі выпадкова на сялянскім сходзе ў в. Вяленшыне II-е было пастаўлена пытаньне аб шкоднасьці алкаголю, дык сход абмежаваўся толькі такою зусім непрактычнаю пастановаю: «прыняць да ведама». Такую-ж пастанову прыняў сход вёс. Сьвідзічы аб месячніку культпаходу камсамолу.

Аб працы сярод жанчын адмечана ў справаздачы с-савету так:—«праца сярод жанчын выказваецца ў правядзеньні міжнароднага жаночага дню і ў правядзеньні сходаў жанчын у час кампаніі, правадзімай с-саветам». Побач-жа ёсьць шмат у с-савеце актыўных жанчын. Толькі трэба было с-с ўзьняць гэтае пытаньне ды ў парадку самакрытыкі прыцягнуць і райжэнарганізатара, якая за ўвесь час ні разу не даведавалася. Быў нават такі выпадак, калі ў парадку дагаворанасьці сабралася 60—70 жанчын, але дарма—з раёну нікога не прычакаліся. Ня дзіва, што ўдзел жанчын у рабоце саветаў адсутнічае. На перавыбарчым сходзе 21 студзеня прысутнічала толькі 4—5 жанчын і 5—6 дзяўчат.

Пры с-савеце ёсьць 5 камісій: асьветная, гандлёва-каапэрацыйная, падатковая, санітарная і інш. Дырэктыва прэзыдыуму с-с, каб апошнія зложылі пляны працы, засталася дырэктываю і па сёнешні дзень: савет не правяраў яе выпаўненьня. Некаторыя члены нават ня ведаюць, што яны зьяўляюцца членамі камісій.

Камісіі нават ня ведаюць, што ім трэба рабіць, з чаго пачаць, хто імі павінен кіраваць. С-савет нават лічыць гандлёва-каапэрацыйную камісію, арганізаваную незалежна ад савету, сваёю. А вось выпадак працы лясной камісіі. Селянін Каўпак кажа: «даручыў мне с-савет зрабіць абход двароў, каб выявіць хто больш нуждаецца ў апале. Пашоў я ў абход. Ідзе дождж, цячэ з мяне адусюль, але я выконваю абавязак. Ці была з гэтага якая карысьць: без мяне-ж зрабілі разьмеркаваньне». Вось гэта значыцца праца! Гэтым мы толькі адбіваем ад актыўнага гр-на усякую зацікаўленасьць у працы.

На тэрыторыі с-савету ёсьць два аддзяленьні спажывецкіх таварыстваў. Каапэраваньне беднаты ідзе слаба, с-савет нават не зацікавіўся колькі каапэравана, колькі трэ' каапэраваць, бо лічбаў няма.

Слаба праведзена работа па тлумачэньні калектывізацыі сельскае гаспадаркі. Землеўпарадкаваньне праведзена за мінулы год толькі ў двух пунктах, дзе землеўпарадкавана 40 гаспадарак. Сялянства аб машынізацыі гаворыць так: «нашто нам машыны, мы і паматычым».

У раёне с-с знаходзіцца 74 дзесяціны лесу мясцовага значэньня, але добрага догляду за ім няма. Лес вартуецца лясьнікамі, нанятымі вобчаствам, якія, як кажуць, таргуюць ім, прадаюць за чарку гарэлкі. Характэрна, што заявы і скаргі сялян па справаздачы ўпаўнаважанага, якія патрабуюць самага хутчэйшага расьледваньня, марынуюцца ў шафе, а савет апраўдваецца, кажучы, што ня было паперы, каб напісаць заявы ў пракуратуру.

Лепш абстаіць справа ў сэнсе кіраваньня падпарадкаванымі с-савету органамі. Усякая справаздача с-саветам сьперша выносіцца на шырокае абгаварэньне сялянства, а пасьля ставіцца на пленум с-с.

На тэрыторыі с-савета ёсьць 4 школы, з іх 2 двухкамплектных і 2 аднакамплектных. З 310 дзяцей школьнага ўзросту не ахоплена школамі толькі 25 чал.

Ёсьць пажарная дружына, у якой налічваецца 49 чал. Дружына мае свой будынак, 2 багры, некалькі крукоў, 3—4 бочкі. Зараз з самаабкладаньня на пажарныя машыны адпушчана 108 руб.

З боку сялянства праяўляецца вялікая зацікаўленасьць да арганізацыі мэліярацыйных т-ваў (Леткаўшчына, сл. Кучынка), але чамусь-ці райвыканком слаба рэагуе на гэта і таварыствы да гэтага часу яшчэ не аформлены. С-савету трэба падварушыць гэту справу, дзе яна застыла, каб к надыходзячай вясьне даць сялянству мажлівасьць пачаць работу.

**А. Странок.**

# Праца Росіцкага сельсавету.

(Дрысенскага раёну, Полацкай акругі).

## Арганізацыйна-масавая работа.

На працягу 1928 году савет меў плян працы на лілепь-сьнежань м-цы. Вызначаныя ў пляне мерапрыемствы не вырашаліся па ўстаноўленай плянам сыстэме, калянлдарнасьць у плянавай рабоце не захоўвалася. Самыя пляны пабудаваны бяз вучоту наказу выбаршчыка і дырэктыў вышэйшых органаў. Плян работы выкананы толькі на 25,5 проц.

Пасяджэньні пленуму і прэзыдыуму савету праводзіліся нерэгулярна. Так, у бягучым 1928 годзе на працягу першых 10 месяцаў адбылося толькі 2 пленума і 12 пасядж. прэзыдыумаў.

Пытаньні паміж прэзыдыумам і пленумам расчленены даволі правільна, напрыклад парадак дню пленуму сельсавету ад 10-IV—28 г.:

а) аб вясенняй пасяўной кампаніі;

б) зацьвярджаньня праэкту разьмяркаваньня насенных пунктаў па групам прыбытковасьці на 1928—1929 год;

в) аб выкананьні сельска-гаспадарчага падатку і страхоўкі;

г) бягучыя справы.

Парадак дню прэзыдыуму савету ад 10/II-1928 г.:

а) аб падвозе лесаматар'ялаў для Кулакоўскай школы;

б) аб пабудове лазьні ў Росіцы;

в) аб зборы дапамогі пацярпеўшым ад землятрасеньня ў Крыму;

г) розныя справы.

Папярэдняя падрыхтоўка пытаньняў парадку дню да пленумаў праводзіцца толькі ў тым сэнсе, што на пасяджэньні прэзыдыуму вызначаюцца тыя пытаньні, якія мяркуецца вырашыць на пленуме. Праэкты рэзалюцыі і асноўныя лініі даклада папярэдне не складаюцца.

Збоку савету надта мала праяўлена ўвагі ў справе наданьня рабоце пленуму і прэзыдыуму характару масавасьці: выезды ў вёскі на пасяджэньні не практыкаваліся, не рабілася саветам залучэньне ў работу прэзыдыуму і пленуму прымацаваных дэлегатак-практыкантак, беднаты, вясковага актыву, прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацый.

Пасяджэньні пленумаў і прэзыдыумаў савету наведваліся членамі апошняга неакуратна. Бываюць прыклады, калі пасяджэньні прэзыдыуму адбываліся пры двух членах (4 выпадкі).

Прымацаваныя да савету дэлегаткі-практыканткі ў працу савету не ўцягнуты; апошні нават не запрашаў іх на свае пасяджэньні.

Саветам дакладна не наладжана праверка выкананьня сваіх пастаноў і даручэньняў. Ня ўведзена ў практыку заслухоўваньне дакладаў членаў савету і падпарадкаваных установаў і арганізацый з мэтаю праверкі выкананьня дадзеных даручэньняў.

Факты парушэньня пынцыпаў савецкай дэмакратыі з боку савету маюць месца ў форме: а) бязуважлівых адносін да рашэньняў сходаў, якія амаль што ніколі не разглядаюцца саветам і па іх пастановах ня прымаецца практычных вычэрпваючых мерапрыемстваў; б) падмена пленуму савету вузкім калектывам—прэзыдыум; в) перавага адналічнай работы над калектыўнай.

Кіраўніцтва савету падпарадкаванымі ўстановамі і арганізацыямі, агульнымі сходамі ажыцьцяўлялася слаба, асабліва за апошні год: не праверяны і не заслуханы даклады па школьных справах (пры ўкамплектаваньні школ дзяцьмі былі прыняты дзеці заможных, у той час, як дзеці беднаты ня былі прыняты). Недастаткова правяралася работа гандлюючых арганізацый. Зусім ня было праяўлена патрэбнага кіраўніцтва і арганізацыйнай дапамогі камісіям пры савеце. У кіраўнічай працы савет не практыкаваў мэтадаў папярэдняга абсьледваньня тае ўстановы ці арганізацыі, якое належала заслухаць даклад альбо справаздачу.

Пры савеце было дзьве сталых камісіі: сельска-гаспадарчая і культурна-санітарная. Сельска - гаспадарчая камісія была створана выключна з членаў савету. Культурна-санітарная камісія была арганізавана ў складзе 48 чалавек: 8 членаў савету, а астатнія—актывістыя. У першай палове мінулага 1927 году культурна-санітарная камісія правяла тры пасяджэньні; пачынаючы з 2-е паловы 1927 году камісіі працы зусім ужо не вялі. З боку савету нічога ня было зроблена з мэтай ажыўленьня работы іх. Толькі на пасяджэньні прэзыдыуму савету ад 16/II—28 г. была заслухана інфармацыйнаая заява члена савету (а ня сталага работніка савету) аб бязьдзейнасьці камісій. Па гэтай інфармацыі была вынесена пастанова: «У зьвязку з слабай працай камісій зараз - жа прапанаваць скласьці пляны працы, абавязаўшы кіраўнікоў зрабіць у прэзыдыуме пэрыядычныя справаздачы аб іх працы; непрацаздольнага і не палепшваючага працы камісіі—замяніць». Як відаць, у гэтай пастанове савет нічога канкрэтнага ня вызначыў па сутнасьці пытаньня, чаму ў далейшым і не магло выявіцца палепшаньня работы камісій. Ці ёсьць пэрспэктывы для разгортваньня работы камісій? Бязумоўна, ёсьць. Кадры актыву ў савеце ёсьць: 17 членаў савету, каля 10 членаў сельксэсткома, ёсьць група работнікаў коопэрацыі, у самой Росіцы знаходзіцца 8 настаўнікаў, некалькі мэдработнікаў, ёсьць значны калектыў вайсковых работнікаў. Вучоту ўсяго таго сапраўднага актыву, які ёсьць ў савеце, апошнім ад гэтага часу не заведзена.

Таксама бязьдзейнічае і рэвізыйная камісія пры сельскім савеце. Савет не праяўляў папытак падштурхнуць рэвізыйную камісію для выкананьня сваіх абавязкаў.

Агульныя сходы, як адна з форм масавае работы, саветам скарыстоўвалася, галоўным чынам, у час кампаній. Усяго саветам праведзена ў 1928 г.—16 агульных сходаў, альбо ў сярэднім два сходы за год на адзін выбарчы вучастак, паколькі на некаторых вучастках сходы склікаліся па два разы па пытаньні аб самаабкладаньні, дык з гэтага выцякае тое, што вырашэньнем іншых гаспадарчых пытаньняў сходы не займаліся.

Кіраўніцтва савету сельскімі сходамі ажыцьцяўляецца слаба.

Наведваньне сходаў насельніцтвам невялікае. З боку савету мала зварачаецца ўвагі на справу павялічэньня яўкі на сходы сялянства, якая дасягае 20—23 проц.

У складзе савету ёсьць адна жанчына — член савету. Актыўнага ўдзелу ў практычнай рабоце савету яна не прымае. З боку саветаў не праяўлялася захадаў для кваліфікаваньня жанчын на практычнай савецкай рабоце. Нічога саветам ня зроблена ў справе рэалізацыі пастаноў конфэрэн. жанчын, а таксама дырэктыў вышэйшых органаў па ўцягненьню жанчын у савецкае будаўніцтва.

Члены савету таксама ні разу не рабілі справаздач аб сваёй працы ні

на сходах выбаршчыкаў, ні на пленуме савету.

Прыём наведвальнікаў з боку сталых работнікаў сельсавету, асабліва з боку сакратара, носіць характар няпрывётлівасьці, бязуважнасьці, а часам і лаянкі.

Пры савеце ёсьць група беднаты. Апошняя працуе даволі актыўна. Узаемаадносіны паміж саветам і групай беднаты нармальныя. Групаю беднаты абмяркоўвася шэраг пытаньняў, якія пасьля былі ўнесены ў савет (аб аслабаненьні ад сельска-гаспадарчага падатку, разьмеркаваньне скідачнага фонду па страхоўцы, аслабаненьне ад уплаты за земляўпарадкаваньне). Рашэньні груп беднаты саветам праводзіліся ў жыцьцё поўнасьцю.

Гаспадарчая дзейнасьць Росіцкага савету характарызуецца наступнымі данымі:

| Асноўныя галіны гаспадарчай працы савету | Разгледж. за: 1927 г. | 1928 г. |
|---|---|---|
| **1. Сельская гаспадарка.** | | |
| а) арганізац. калгас. . . . | — | — |
| б) арганіз. т-ваў с.-г.. . . | — | — |
| в) земляўпарадкаван.. . . | 8 | 3 |
| г) мэліорацыя . . . . . | 4 | 2 |
| д) агра-дапамога. . . . . | 3 | — |
| е) кредыт. с.-г. . . . . | — | — |
| ж) пасяўкампан. . . . . | 3 | 2 |
| **2. Лясная гаспадарка.** | | |
| а) ахова лясоў. . . . . | — | — |
| б) лесазабясьпеч. . . . . | 3 | 1 |
| **3. Рэгуляв зям. канфлікт.** | 4 | 3 |
| **4. Камунальная гаспад.** | | |
| а) дабрабыт. . . . . . | 7 | 2 |
| б) грамадз. будаўн. . . . | 2 | 1 |
| в) шляхавае будаўн. . . . | 3 | — |
| г) супроцьпажар. ахова . . | — | — |
| **5. Фінансав. мерапрыем.** | | |
| а) Сельска-гаспад. пад. . | 6 | 4 |
| б) самаабкладаньне . . . | — | 15 |
| в) пазыкі . . . . . . | — | 4 |
| г) каштарыс . . . . . | — | — |
| д) каса ашчэднасьці. . . | — | — |
| е) страхоўка . . . . . | 3 | 2 |
| **6. Гандаль і рынак.** | | |
| а) каапэраван. насел. . . | — | — |
| б) загатоўка . . . . . | — | — |
| **7. Культ.-сац. пытаньні.** | | |
| а) нарасьвета . . . . . | 5 | 1 |
| б) ахова здароўя . . . | 3 | — |
| в) сац. дапамога . . . . | — | 2 |
| **Разам.** | 54 | 42 |

Аглядаючы гаспадарчую работу савету за мінулы 1927 і бягучы 1928 год заўважваецца перш за ўсё тое, што аб'ём гэтай работы за апошні год павузіўся: у гэтым годзе саветам зьвернута менш увагі на вырашэньне сельска-гаспадарчых пытаньняў.

Сельсавет ніводнага разу за апошні год не займаўся вырашэньнем і праверкай, куды накіроўваецца крэдытаваньне сельскай гаспадаркі: якія па сацыяльнаму складу гаспадаркі атрымлівіюць крэдыты грашыма, машынамі і насеньнем і як забясьпечаны былі крэдытаваньнем інтарэсы бядняцка-маламоцных гаспадарак.

Пры правядзеньні работы па самаабкладаньню, саветам дапушчана шэраг ненармальнасьцяй, як скажам: а) прызначэньне сродкаў самаабкладаньня, і разьмеркаваньне іх ўстаноўлена не на агульных сходах, а на пасяджэньні прэзыдыуму, прычым сродкі па самаабкладаньню саветам былі прызначаны ў значнай частцы для мяст. Росіца (каля 50 проц.) і толькі другая палова гэтых сродкаў была вызначана для сельскіх мясцовасьцяй.

У пастановах сходаў ня вызначаны процант памеру самаабкладаньня, хоць налічэньне сум самаабкладаньня зроблена з рахунку 35 проц. ад сумы выплачанага сельска-гаспадарчага падатку.

Пры налічэньні сум самаабкладаньня дапушчаны сваевольныя зьніжэньні для некаторых гаспадарак і, галоўным чынам, больш моцных. Вось прыклады: а) па вёсцы Немцы: 1. Вврановіч І. І. (плаціў падатку 4 р. 80 к.), а самаабкладаньне 1 р. 68 к., б) па вёсцы Ворзава: 1. Кляноўскі І. Г. (плаціў падатку—51 р. 59 к.), а самаабкладаньне 10 р. 2. Лях Франц Іванаў (плаціў падатку 42 р. 80 к.), а самаабкл.—5 р.

Пераличаныя прыклады сьведчаць аб тым, што клясавая лінія ў рабоце савету не захоўвалася добра. Аб гэтым-жа гавораць і факты выдачы пасьведчаньняў, альбо хадайніцтваў на атрыманьне крэдыту, насеннага матар'ялу, хлеба такім гаспадаркам, якіх ні ў якім выпадку нельга аднесьці да групы бядняцкіх.

**А. Л.**

# Сельсавет працаваў слаба.

**(Ветрынскі раён—з газэты „Чырвоная Полаччына“**

2-га сьнежня г. г. быў склікан пленум Руднянскага сельсавету з наступнымі пытаньнямі: справаздача сельсавету і прадвыбарчая кампанія, даклад рэвізійнае камісіі і даклад райвыканкому. Пленум прыцягнуў да сябе ўвагу насельніцтва. Увесь клюб перапоўнены сялянамі і сялянкамі.

## Як работаў сельсавет

Яшчэ мала чаго праароблена сельсаветам. Гэта паказалі спрэчкі і заданзеныя пытаньні па дакладу. Асабліва кідаецца ў вочы недастатковае правядзеньне калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Таксама дрэнна з землебудаўніцтвам. Па ўсім сельсавету няма ні аднаго машыннага таварыства. Гэта і то ўжо зьяўляецца значным мінусам у рабоце сельсавету.

Дрэнна справа з ліквідацыяй няпісьменнасьці сярод насельніцтва. Маецца пяць ліпкунктаў, але наведваньне іх нікудышнае за выключэньнем аднае вёскі Рагачы. Што-ж датычыцца школ, то іх летась было тры. Сёлета-ж адчынена яшчэ адна школа, але яна знаходзіцца бяз дроў, дзякуючы чаму амаль што нельга праводзіць заняткі.

Слаба сельсавет удзельнічаў у распаўсюджваньні другой пазыкі індустрыялізацыі. Фактычна гэтая кампанія праводзілася Фарынаўскай партыйнай ячэйкай.

## У чым справа.

Пры сельсавеце было пяць камісій: сельска-гаспадарчая, каапэрацыйная, дарожная, падатковая, і культурна-асьветная. Гэтыя камісіі ніякай работы не вялі. Старшыня сельсавету працаваў за ўсіх, а не даваў канкрэтнага кіраўніцтва камісіям. Таксама і члены сельсавету ня прымалі актыўнага ўдзелу ў рабоце сельсавету. Аб рэвізійнай камісіі няма ўжо чаго і гаворыць, бо яе даклад на пленуме быў сарваны, дзякуючы таму, што не зьявіліся члены рэвізійнае камісіі.

Некаторыя члены сельсавету, як напрыклад Урбан выступалі ў спрэчках па дакладу, выказваючы імення кулацкія думкі. Праўда, такія выступленьні атрымалі належны адпор з боку пленуму. Але тут вывад зразумелы. Ад такіх членаў, як Урбан не карысьць сельсавету, а шкода.

**Рэйнгольд.**

# Два гады ўпартай культурна-грамадзкай працы.

У 5-ці кілёмэтрах ад ст. Міхановіч раскінуўся Кайкаўскі с-с, які яднае 600 беднацка-серадняцкіх гаспадарак. У мінулым—1928 г. с-савет складаўся з 14 членаў, з іх: жанчын—1, беднякоў—8 і серадпякоў—6 (у тым ліку 1 комсамолец).

Пры с-с існавала 6 камісій: культасьветная, каапэрацыйная, сельска-гаспадарчая, санітарна-асьветная, падатковая і лясная.

Як у прэзыдыуме с-с, такі і ў камісіях—плянавасьць у працы адсутнічала, але выні‌кі некаторыя ёсьць. Культасьветная камісія засядала 6 разоў, санітарна-асьветная, лясная і падатковая па адным разу, сельска-гаспадарчая 4 разы і каапэрацыйная 3.

За мінулы час закончана пабудова Астраўской аднакамплектавай школы; Міханавіцкай 2-х камплектавай; набыта частка матар'ялу на будаўніцтва Бардзілаўскай 3-х камплектавай школы і адрамантавана Кайкаўская школа. Ва ўсіх школах уведзена ўсеагульнае абавязковае навучаньне, за правядзеньнем якога наглядаюць настаўнікі, прэзыдыум с-с, і асобныя члены с-савету. Настаўнікі прымаюць актыўны ўдзел у грамадзкай культурнаасьветнай працы, дзякуюча чаму культурны ўзровень значна павялічыўся, чым тлумачыцца і павялічэньне выпіскі газэт, якіх зараз выпісваецца на с-с 320 экзампляраў супроць 80 экзампляраў у 1927 годзе. У с-с існуе 2 лікпункты, дзе навучаецца 42 пісьменных.

У правядзеньне гаспадарчых кампаніяў с-с уцягваў актыў, які дапамагаў у працы. Распаўсюджана сялянскай пазыкі на 420 руб. і ІІ-й пазыкі індустрыялізацыі—на 910 супроць заданьня—на 750 р.

Самаабкладаньне праведзена па ўсім с-с на 2135 руб., якое скарыстана поўнасьцю. За сродкі самаабкладаньня адрамантавана 2 школы, набыта 2 помпы і інш. рэчы.

У гэты-ж год самаабкладаньне праведзена па ўсім с-с на суму 2400 руб. На гэтыя сродкі прадбачыцца абсталяваць 2 пажарныя дружыны, адбудаваць хату-чытальню і каля 810 руб. праведзена на Бардзілаўскую школу.

У пасяўную кампанію выдана 75 пудоў насеньня бядняцкім гаспадаркам і 50 руб. грашыма.

С-савет шмат зьвяртаў увагі на грамадзкія арганізацыі ў выніку чаго па с-с арганізавана 3 ячэйкі Чырвонага крыжу з 70-ю членамі, сярод якіх рэгулярна чытаюцца лекцыі студэнтамі мэдфаку БДУ, 3 ячэйкі бязбожнікаў з 50-ю членамі, 3 ячэйкі МОПР'а з 80 чл. і яч. Т. Д. Авіахэм.

Арганізавана за апошнія гады 10 тарпяных т-ств, з якіх стала і арганізавана працуе толькі 5. Арганізавана і 4 мэліарацыйныя т-ствы, якія ў 1928 г. асушылі 13 гэктараў балота, якое ўзорана трактарам і засеяна балотнымі травамі. Усяго прадбачыцца асушыць у блізшэйшыя гады 350 гэктараў балота, якое цяпер не дае ніякай карысьці. Меліарацыйнымі т-ствамі яднаецца 260 гаспадарак.

Малочных арцеляў 3, але працуе 1, якая дзейнасьць сваю асабліва разгарнула ў апошнія часы. Маецца на ўвазе адчыніць масьлярню.

У 1928 годзе пры вучоце аб'ектаў абкладаньня была праяўлена максымум увагі па выкрываньні ўтоеных аб'ектаў. У гэтай працы шмат праяўлена актыўнасьці пэасобнымі членамі с-савету і камсамольцамі. У выніку выкрыта: 107 гэктараў пахаці, 2 каровы і 120 сьвіней.

Ад падатку вызвалена 194 гаспадаркі, што складае 32,3 проц. да агульнага ліку гаспадарак.

За мінулы год адбылося 12 пленумаў і 29 прэзыдыумаў, сярэдняя яўка сяброў сельсавету на пленум складае 65 проц. Часта заўважаецца, што пастановы пленумаў і прэзыдыуму не выконваюцца, дзякуючы чаму ёсьць і некаторыя хібы ў працы.

Адзін з галоўных недахопаў гэта адсутнасьць заслухоўваньня дакладаў грамадзкіх арганізацыяў і ўстаноў, як на пасяджэньнях прэзыдыуму, так і на пленумах.

Яшчэ да гэтага часу не наладжана азнаямленьне насельніцтва з савецкім заканадаўствам, няма сталага вучоту актыву і слаба працуюць камісіі.

Перавыбарчая кампанія закончылася. Цяпер у савет выбрана 33 члены: 9 жанчын, 24 мужчыны; партыйцаў—1 і комсамольцаў—6; беднякоў—16, серадпякоў—15 і рабочых—2.

Гэты склад с-савету ў параўнаньні з мінулым значна лепшы і надае надзею на лепшую працу.

Член раённай камісіі па правядзеньні конкурсу на лепшую сэкцыю савету **П. Лабус.**

# Сэкцыі толькі на паперы.

**(Талочынскі м-савет, Аршанскай акругі).**

Працаўнікі Талачынскага м-савету мяняліся вельмі часта. За два гады зьмянілася 3 Старшыні і 6 Сакратароў, што не магло не адбіцца на працы савету.

Местсавет прарабіў вялікую працу ў галіне выкананьня наказу выбаршчыкаў. Так, арганізована 5 калянтываў і 1 камуна, у якіх лічыцца 47 гаспадарак, з іх 17 бядняцкіх. Год таму назад у мястэчку былі арганізованы яшчэ 4 калянтывы з 28 гаспадарак, яўрэйскі калянтыў з 8 гаспадарак, садоваагародніцкае таварыства з беднякоў яўрэяў і 2 машынных таварыствы з бедната.

Местачковы савет дастаткова зьвяртаў увагу на працу калянтыўных таварыстваў, ставячы іх справаздачы на свае пасяджэньні. Калі раней у агнятрывалым таварыстве выпрацоўвалася кепская чарапіца і яе ніхто не хацеў купляць, дык пасьля зазначэньняў савету якасьць чарапіцы палепшылася. Інвалідная каапэрацыя раней гналася толькі за прыбыткам, які яна мела ад продажы рускае горкае, але пасьля адпаведных дырэктыў перайшла з гандлёвага характару работы на вытворчы, адчыніла пякарню і каўбасьную.

Праца па пераводу гаспадарак на землеўпарадкаваньне местачковым саветам была пачата яшчэ ў 1925 годзе і ужо ў 1928 годзе закончана. Засталіся не разбітымі на палі толькі некаторыя пасёлкі.

З 314 гаспадарак савету 75 аб'яднаны ў калектывы. Местасавет тады ўзбудзіў хадайнічаньне перад зямельнымі органамі аб пераводзе на землеўпарадкаваньне і астатніх, гаспадарак, дазвол савет атрымаў і ўзяўся за правядзеньне гэтай працы. Для зьнішчэньня недахопу зямлі, местачковы савет узбудзіў хадайнічаньне аб перадачы яму зямлі тых грамадзян, якія яе самі

не апрацоўваюць, альбо незаконна здаюць у арэнду.

Па лініі дапамогі беднаце сельска-гаспадарчай каапэрацыяй выдана крэдыту на 7920 руб., насеньня—938 пуд. Камітэт Узаемадапамогі з свайго боку выдаў—172 п. насеньня і 60 руб. Каапэравана за кошт фонду беднаты у крэдытную каапэрацыю 16 чал., спажывецкую—310 чал. Усяго каапэравана насельніцтва ў сельска-гаспадарчую каапэрацыю—206 чал. і спажывецкую—780.

Савету на мінулых выбарах выбаршчыкі далі наказ пабудаваць 3 печы ў хлебапякарні, пачыніць вуліцы і тратуары. Гэта выканана. На самаабкладаньне наладжаны 4 вуліцы, на што пашло 1014 руб. 29 кап., у семігодцы адчынена яшчэ адна раўналежная група. У лячэбніцы праведзен водаправод і куплены патрэбныя інструмэнты для мэдпэрсаналу, пабудованы багорны воз, для пажарнай дружыны папраўлены бочкі, багры і пабудована каланча. У гэтым-жа годзе за самаабкладаньне будзе наладжана лазьня.

Камісіі пры савеце працавалі квола, а некаторыя зусім ніякай працы не праводзілі. Напрыклад культурна-асьветная камісія правяла за два гады толькі чатыры пасяджэньні і выпусьціла адну насьценную газэту. Галоўны недахоп у працы камісій гэта тое, што у іх ня быў уцягнут актыў, і ня было плянавасьці.

Недастатковаю была і сувязь савету, з масамі. Савет за ўвесь час толькі два разы рабіў справаздачу выбаршчыкам, а некаторыя сябры яго ні разу ня былі на пасяджэньнях савету, пры чым аб замене іх савет ні разу ня ставіў пытаньне перад выбаршчыкамі.

Пастанова партыі і ўлады аб праведзеньні працы сярод нац. меншасьцяй на іх роднай мове, саветам ня выконвалася.

Шарпун. Зак Х.

# Праца Падворацкага сельсавету.

У працягу году адбылося 39 пасяджэньняў прэзыдыуму с.-с, на якіх абгаварваліся пытаньні большай часткай кампанейскага характару, якія трэбавалі тэрміновага выкананьня.

Самадзейнасьці з боку с-савету ня было. Ня было кіраўніцтва вясковым актывам, ня выкарыстоўвалася ініцыятыва вёскі. Затое замест культурнай працы ў вёсцы Ладуцічы пашыран самагон, расьце някультурнасьць.

Сельсавет не стварыў ніводнае камісіі, ня вёў ніякай працы. Грамадзкія ўстановы, як школы, не рабілі дакладу на пленуме савету, і з пяці школ даклад зрабіла толькі адна. І ня дзіва, калі на запытаньне: колькі процантаў ахоплена школаю дзяцей школьнага ўзросту, былы старшыня сельсавету кажа: «ня ведаю». Настаўніцтва ня ўцягнута ў працу, з яго боку наглядаецца нядбайнасьць.

Калі паглядзець у каапэратыў, дык ён ня мае такіх тавараў як лыка і інш., сялянства ня ўцягнута ў каапэрацыю, і ходзіць па ўсякую дробязь у горад за 15 кілём. Сельсавет-жа ня цікавіўся гэтай працай і не заслухоўваў дакладаў.

Далей—мэліярацыя. Сельсавет топіцца ў балоце. Агульная плошча балота каля 4000 гэктар і ў ім гіне штогоду каля 1000 воз сена. Селяніну трудна дастаць сена з балота, каровы ня хочуць есьці асакі, не даюць малака, а сельсавет ня цікавіцца, як ідзе мэліарацыйная справа па с-сав., як атрымоўваюць крэдыты. І толькі пры перавыбарах выявілася, што культ.-тэхнік Акрза атрымаў грошы ў сялян на культур-тэхніку, а працы ніякай не паказаў. Аб гэтым с-савет нікога не паведаміў.

У савеце пануе доўгая вузкая трохпалёўка, няма травасеяньня і кораньплодаў. Сяляне праяўляюць ініцыятыву, яны хочуць арганізаваць малочную арцель, а с-савет маўчыць. І. Масальскі.

# Агляд пастаноў прэзыдыуму ЦВК БССР па пытаньнях будаўніцтва саветаў.

І. 10 студзеня Прэзыдыум ЦВК пастанавіў арганізаваць два новых нацыянальныя польскія саветы: Александраўскі сельскі савет з цэнтрам у вёсцы Александраўцы—у Бялыніцкім раёне, Магілёўскае акр. і Лозінскі сельскі савет з цэнтрам у вёсцы Лозіна—у Барысаўскім раёне, Менскай акр. Гэтая пастанова павінна была быць ажыцьцяўлена у часы перавыбараў саветаў. У выніку, у БССР ёсьць 21 польскі нацыянальны савет.

II. У той-жа дзень Прэзыдыум ЦВК пастанавіў камандыраваць вылучэнцаў—членаў ЦВК на месцы для ўдзелу ў правядзеньні кампаніі перавыбараў сельскіх саветаў.

III. 24 студзеня была прынята пастанова аб арганізацыі двух новых местачковых яўрэйскіх нацыянальных саветаў: Грозаўскага—у складзе м. Грозава, Грэскага раёну, Менскае акр. і Ляднянскага—у складзе м. Ляды, Ляднянскага раёну, Аршанскае акругі. Такім чынам у БССР налічваецца 25 яўрэйскіх нацыянальных саветаў, з іх местачковых—19 і сельскіх—6.

IV. Тады-ж было пастаноўлена арганізаваць пасёлкавы савет у раёне пабудовы Першай Раённай Беларускай Электрычнай Станцыі імя І. В. Сталіна (Асінбуд). Трэба адзначыць, што гэта будзе першы паселак у Беларусі. Да гэтага часу ўсе гарадзкія паселішчы БССР падзяляліся на гарады і мястэчкі. Для вызначэньня кола дзейнасьці, праў і абавязкаў пасёлкавага савету будзе выдана асобнае Палажэньне. Да выданьня гэтага палажэньня пасёлкавы савет будзе дзейнічаць на падставе палажэньня аб сельскіх саветах.

V. 26 студзеня Прэзыдыум ЦВК унёс зьмену у Інструкцыю аб выбарах у саветы. Гэта зьмена выцякае з таго, што, згодна новаму Палажэньню аб прамысловым падатку, патэнты скасаваны. У сувязі з гэтым той пункт Інструкцыі аб выбарах у саветы (п. «ж» арт. 34), які гаварыў аб непазбаўленьні выбарчага права асоб, гандлючых у сілу асаблівых прычын па бясплатных патэнтах, або па патэнтах першага разраду, зараз запісан у наступнай рэдакцыі (не пазбаўляюцца выбарчага права): «асобы, якія ў сілу асаблівых прычын займаюцца дробным гандлем—інваліды працы і вайны, а таксама рабочыя і служачыя (калі для рабочых і служачых гандаль зьяўляецца часовым заняткам), абкладаемыя прамысловым падаткам па арт. арт. 2 і 7 раскладу асабістых промыслаў, які прыкладзен да Палажэньня аб прамысловым падатку. (Збор. Зак. СССР за 1928 г. № 50, арт. 443).

А. П.

Друкарня БДВ Галоўлітбел № 302.